# Першая кніга
# НОТЫ СЭРЦА

Першая кніга Тамары Аўсяннікавай - гэта шчымлівыя ноты адзінокага сэрца, філасофскае адчуванне кругавароту і бясконцасці жыцця, глыбокі лірызм і далікатны гумар, горкая іронія і фальклорныя матывы.

**Тамара**
**Аўсяннікава**

# Ноты сэрца

ВЕРШЫ
МІНІЯЦЮРЫ

Магілёў, 2009

Тамара Аўсяннікава (дзявочае прозвішча Краўчанка) нарадзілася 24 мая 1949 года ў вёсцы Сяўкі Лоеўскага раёна Гомельскай вобласці. У 1966 годзе скончыла Малажынскую сярэднюю школу і паступіла ў Беларускі дзяржаўны універсітэт імя Леніна. Пасля заканчэння працавала на Віцебшчыне настаўніцай рускай мовы і літаратуры. З 1973 года жыве і працуе ў Магілёве.

У часопісах "Полымя", "Роднае слова" і "Дзяслоў", у газетах "Магілёўская праўда" і "Магілёўскія ведамасці" выступала з успамінамі і артыкуламі аб Яўгеніі Янішчыц, а таксама з артыкуламі крытычнага характару. Яе вершы друкаваліся ў "Настаўніцкай газеце", "Весніку Магілёва" і "Прыдняпроўскай ніве". Напачатку карысталася псеўданімам Тамара Макрэніна.

## ШЛЯХ ДА ВЕРШАЎ

Вершы я люблю з дзяцінства. Гэтую любоў перадала мне мама, якая многа чытала на памяць Някрасава, Цютчава, Фета, Пушкіна. Спрыяла і прырода. Дзяцінства маё прайшло на беразе невялічкай рэчкі Пясчанкі, якая ўпадае ў Дняпро. Рэчка чыстая, празрыстая, замярзала толькі ў вялікія маразы. У ёй мы купаліся, лавілі рыбу кошыкамі, на беразе ладзілі канцэрты і спектаклі, пасвілі гусей.

Да сваіх вершаў ішла доўга, нягледзячы на тое, што падштурхоўвалі многія. Перш-наперш сяброўка Яўгенія Янішчыц, затым муж і знаёмыя. Канчаткова спрычыніла адна сітуацыя, якая мяне вельмі ўзрушыла. Паспрыяла і работа. Я стала кіраўніком клуба паэзіі “Творчая гасцёўня” Дома дзіцячай і юнацкай творчасці”Эверэст” Кастрычніцкага раёна горада Магілёва.

**Тамара Аўсяннікава**

Светлай памяці маіх бацькоў

***Макрэны Пятроўны Плюшчай***
***і***
***Пятра Цімафеевіча Краўчанкі***

## АДЗІНОТА

Была спякота
І  адзінота –
Вокны адкрыла.

Была сустрэча,
Халодны вечар –
Расправіла крылы.

Была спакуса,
Радасць чакання,
Ўзлёт і падзенне.

Была надзея,
Расчараванне,
Боль і здзіўленне.

Было маўчанне.
Крыўда была.
Адзінота.

Вокны адчынены.
Дыхаць няма чым -
Спякота.

## ПЕСНЯ

Адзіноту сустрэну я ў полі,
З адзінотай купаюсь ў рацэ,
Адзінота – мая гэта доля,
Адзінота - слязой па шчацэ.

Прыпеў:
Адзінота, адзінота, адзінота,
Ты і радасць, ты і сябра, ты і муж.
Адзінота, адзінота, ну чаго ты
Колеш сэрца, як шыпы чырвоных руж?

Адзінота мяне абдымае
Кожным ранкам і кожную ноч.
Адзінота пяшчотна люляе
І вісіць нада мной, нібы меч.

Прыпеў.
І ў дуброве мяне сустракае,
Каля рэчкі заўсёды са мной,
На гулянцы вясёлай гукае,
Без яе - ні хвіліны адной.

Прыпеў.

* * * * *

Смутак на сэрцы,
Смутак на твары,
Смутак ў вачах.

Скруха галосіць,
Скруха маркоціць,
Не спіць па начах.

Радасць на сэрцы,
Радасць на твары,
Радасць ў вачах.

Шчасце смяецца,
Шчасце сваволіць,
Пяе па начах.

*****

Жаданні мрояцца,
А сэрца тоіцца…
Куды ж сцяжыначка
Нас завядзе?

Пачуцці трояцца,
А сэрца тоіцца…
Чаму ж каханенькі
Мой не ідзе?

Лячу сняжынкаю,
Ўпаду дажджынкаю,
Слёзы ільдзінкаю
Ды па шчацэ.

Жаданні мрояцца,
А сэрца тоіцца…
А дзе ж сцяжыначка,
Скажыце, дзе?

* * * * *

Я не ведаю, што мне рабіць,
Як прымаць мне твае пасланні?
Мо, не трэба капіць дынаміт
І не думаць аб нашым растанні.

Можа, трэба  маліцца лёсу,
Можа, слаць мне падзяку нябёсам,
Што сустрэліся нашы дарогі,
Што мы дзелім свае трывогі…

Ты узрушыў душу і памкненні -
Я жыву  у другім вымярэнні.

* * * * *

Хачу я быць тваім натхненнем –
Цнатлівай музаю.
Хачу я быць тваім сумленнем,
А не абузаю.

Хачу я быць тваім імгненнем –
Салодкай радасці.
Хачу я быць тваім збавеннем
Ад злобнай зайздрасці.

Хачу я скласціся у песню
І адгукнуцца пагудкам.
Хачу я хлынуць на прадвесні –
Бурлівым павадкам.

## БЕЛЫ ВЕРШ

Пакуль што рукі звязаны,
А можа быць, развяжуцца
Пад позіркам якім .
Тады рукамі чулымі,
Як птах, крыламі белымі
Кагосьці  абаўю.
І позіркам, як вэлюмам,
Стан гнуткі мой укрыецца,
І вуснамі дрыготкімі
Кахання чашу поўную
Я вып'ю ўсю да дна.

* * * * *

Я бачу сад у квецені вясны…
І чую гул пчаліны – рой.
І голас твой саб'ецца на бемоль,
Хвалюючы да нематы.

Я рада, што ты ёсць, павер,
Каб я магла трымацца,
І каб шырэйшым быў прастор,
Але шкада, што я да зор
ад бруку чорнага
Змагу дабрацца
ў канцы жыцця,
а не цяпер.

## РУКІ

Замілаванне у мяне
Заўсёды выклікае,
Калі рука руку
У момант  падтрымае.

Сваю я падаю, хто
Ў ёй падтрымку мае,
Калі патрэбна мне –
Рука знікае…

* * * * *

Я не Геніюш
І не Арсеннева,
Не Цётка я
І не Янішчыц,
І не належу я да геніяў,
Але такое ж маю сэрца.
І адчуваю боль чужы,
Як быццам у сваёй
у роднай хаце.
І рада я, калі
Другіх сустрэла шчасце.

* * * * *

Цябе не спакушала.
Ты сам спакусу распусціў
Духмяным хмелем.

Цябе я не чакала.
Ты сам з’явіўся, як вядзьмак,
З атрутаю ці з зеллем?

* * * * *

Дзе конь той белы?
Дзе ружовы ветразь?
І гаспадар іх смелы дзе?

Ружовы небасхіл…
І хтосьці ў белым
Насустрач шпарка мне ідзе…

* * * * *

Нараджэнне…
Радасць, каханне, узлёт.
Пазнанне, сталенне.
Дзецi, унукi – палёт!
Патрэбнасць. Мудрасць.
Нямогласць. Перашкода.
Нябыт – вечнасць.
Запозненасць прабачэння.
Нараджэнне…
Радасць, каханне, узлёт.
Пазнанне, сталенне.
Дзецi, унукi – не мёд…
Патрэбнасць. Мудрасць.
Нямогласць. Перашкода.
Нябыт – вечнасць.
Запозненасць прабачэння.
Нараджэнне…
Кругаварот.

* * * * *

Кроў у жылах забурліла.
Дзеці – жыццёвая сіла.
У жылах віруе кроў!
Слоў не хапае – любоў.
Кроў у жылах стыне:
- Злітуйся, сыне!
- Дачушка, прабач,
Што не так маці зрабіла?
Не пачуў сынок.
Дачушка адказала неўпапад.
А на вуліцы не лістапад.
За акном – зіма, сівер.
Кроў у жылах стыне.

## ПРЫПАДАЮ ДА РУК ТВАІХ СТОМЛЕНЫХ

*Агрыпіне Пятроўне Гулевай*

Ты адна засталася з радні,
З табой бачымся, мілая, рэдка.
Пралятаюць Падвеямі дні
Ды на твары – адметка, адметка.

Шлях твой Доля з Нядоляю выткалі,
Палатно на шчасце расквецілі:
Вышывалі чырвона-чорнымі ніткамі,
Непасільнаю працаю песцілі.

Ты на долю не скардзілась і не ныла,
Працавала, жыла, весялілася.
Дабрыні і цяпла на сотні хапіла,
Аддаваць за жыццё не стамілася.

Я табой ганаруся, радзімая,
Прыпадаю да рук тваіх стомленых.
Прыгажосць недасяжная, дзіўная
У паглядзе вачэй тваіх ўдовіных.

# НЯЯКАСНАЕ ШКЛО

*“Дачушка, наша люстэрка зусім*
*няправільнае,” - сказала мама.*

Люстэрка доўга вывучала
мая матуля.
Нарэшце ўсе-такі сказала:
“Няякаснае шкло -
Палоскі нейкія на твары,
Раней іх не было.
Ня-я-каснае шкло.
Глядзелася ў люстэрка то я мала,
Але ж калі й даводзілась глядзецца,
Дык люба-дорага на сэрцы:
Такая якасць шкла!
І я **прыгожая** была,
І людзі так казалі.
А сёння што на твары?
Не, ня-я-каснае шкло”.

## ПРАЧНУЛАСЯ Я СЁННЯ РАНА

*“І чаму, калі я сяджу альбо ляжу,*
*то іду так далёка і хутка?” –*
*спытала аднойчы мая мама.*

Прачнулася я сёння рана.
І спазаранку басанож
Аббегла месцаў я нямала
І вось вяртацца трэба ўсё ж.

Ах, божухны, дык я і не ўставала
І лежачы далёка так гуляла
Ў такую рань і басанож?!
О-о, прачнулася я сёння рана.

## УСПАМІН

*Марыі Цімафееўне Брэгід*

Стаю ля селішча, заросшага бур'янам,
І ўспамінаю цётку родную сваю…
О, як жа працавала яна р'яна!
Не на сябе, на ўсю сваю сям'ю.

Усюды цётка паспявала,
Увішна дом свой дагледала,
Гады ляцелі чарадой,
Сям'я трымалася на ёй.

І вось ўжо цётка на пагосце.
За ёй пайшлі дачка і зяць -
Няма к каму заходзіць ў госці,
Няма ў каго параду браць.

Усё навокал разам апусцела,
Праз нейкі час і селішча згарэла,
Падвор'е зарасло бур'янам –
Няма таго, хто працаваў так р'яна.

Ах, цётухна, мяне ты ўжо не чуеш…
І не прыплачаш больш, не пашкадуеш.

## ЮБІЛЕЙНАЕ

*Наталлі Іванаўне Салохінай*

Пралятаюць гады так імкліва,
Не спыніць іх напорысты бег.
І на сэрцы чамусьці тужліва,
Бесклапотны згубіўся дзесь смех.

Колькі сцежак пракладзена намі,
Колькі радасці зведана сэрцам!
Летуценнымі мроілі снамі,
Не забыта нішто, мне паверце.

На імгненне закрыла ты вочы –
У дзяцінства вярнулась ваеннае.
Кадр змяніўся. І стан твой дзявочы
Прадчувае каханне благаславеннае.

Мацярынства істота прасіла,
Ды раскладку зрабіў хтось па-іншаму:
Немаўлятку з любоўю усынавіла,
Гадавала, лялеяла, песціла.

Ўжо паважным зрабіўся твой крок,
Ў задуменні старонкі гартаеш,
Разглядаеш свой лёс як урок,
Іншай долі сабе не жадаеш.

Можа, склалася штосьці не так,
І не тымі хадзіла сцяжынкамі,
Тваю зорную долю мастак
Аздабляе расой і сняжынкамі.

## АНДРЭЮ ЗОРЫНУ

Зорка Зорына заззяе!
Мара думку акрыляе.
Зорку Зорына люляе
Вецер буйны у палях.
Зорка Зорына заззяе!
Срэбны месяц асвятляе
Для Андрэя зорны шлях.
Зорка Зорына заззяе!

## В.С.

Не шукала,
Не спакушала,
Чакала.
Сустрэла –
Не распазнала.
Не зберагла,
Не ацаніла,
Недакахала,
Не наталіла.
Не сцярпела,
Не даравала,
Забараніла.
Згубіла –
Засумавала.
Замкнулася,
Не змагалася,
Разуверылась,
Спадзявалася.
Змірылася,
Адпусціла,
Памылілася.
Пабегла –
Спазнілася.

* * * * *

Косы вярба мые ў рэчцы над вадою,
Маё сэрца ные, мілы, за табою.

Я з табою, любы, гора не страшылася,
Без цябе слязамі горкімі умылася.

На вярбе салоўка весела спявае,
А зязюля шэрая жалабна кувае.

Ой, зязюля шэрая, перастань куваці,
Хопіць майму сэрцайку жалю надаваці.

Ты, салоўка-пташачка,  хораша спяваеш,
Але ж майму сэрцайку жалю прыбаўляеш.

Не вярнуць кахання мне майго былога,
Бо зямля ўжо пухам для майго мілога.

## АЛІСЕ МІХАЙЛАЎНЕ ШЫЛОВІЧ

***Хоць лютуе люта люты –***
***Неба ясніцца вакол.***

Я.Янішчыц

Даўно ўжо люты не лютуе,
Ды выдалісь усё ж дзянькі:
Прырода інеем чаруе,
Іду няспешна напраткі.

Ў маўчанні дрэў, схіліўшых голле,
Святочнасць, велічнасць пануе.
Карункавае наваколле
Настрой лірычны мне дыктуе.

Згадаліс стрэчы нашы шчырыя
І чалавечнасць сэрца Вашага.
Патоля Вы мая шчымлівая,
І больш такіх нямашака.

Ад Вас той восенню прымала
Жэнь-шэнь, бярэцік вязаны,
Тады душою адчувала:
Сяброўствам будзем звязаны.

І Вы спагадліва глядзелі…
Быў цяжкі і шчаслівы час!
І слёзы на вачах трымцелі
У мяне і ў Вас…



Пётр Цімафеевіч Краўчанка
(бацька) 1915



Макрэна Пятроўна Краўчанка
(маці) 1987



З хроснай маці Лізаветай і яе сынам
1953



А.П. Гулева (цётка), Таня (дваюрадная сястра), Е.В. Плющай (бабуля па маці)



Студэнтка 1 курса БДУ імя Леніна
1967



Студэнтка 3 курса БДУ імя Леніна
1969



Студэнтка 4 курса БДУ імя Леніна
1970



Студэнтка 5 курса БДУ імя Леніна
1971



Васілій Спірыдонавіч Аўсяннікаў
(муж) 1990



Дачка Наталля з мужам Раманам
1996 г.



Дачка Алеся з мужам Марцінам
2001г.



У Нідэрландах 2008



Унучкі:  Шарлота і Ліза.  2008



Унукі: Міласлава, Аляксандр і Ліза. 2004



Нордвайк. На беразе Паўночнага мора.
2008

* * * * *

Ружа на памяць, ружа растання,
Ружа нязбыўных кахання і мар.
Ружа, скажы мне, чаму на змярканні
Сэрца ў палоне крозавых чар?

* * * * *

Хачу сваё я шчасце мець.
Хто нарадзіўся поўзаць,
Таму ўжо не ўзляцець.

* * * * *

Калі ты мой адчай
Прымаеш за каменне,
Мой дружа, выбачай,
Няма паразумення.

* * * * *

Прадчуванні мае, прадчуванні,
Як заўжды вы мяне прывялі
На бязроднае поле кахання,
Дзе абвуглена сэрца зямлі.

* * * * *

Другіх ты лёгка забываў –
Мне не забыцца.
Хоць спаць ты будзеш,
Па начах я буду сніцца.

* * * * *

Я спазнілася на баль -
З лёсам сталі квіты.
І таму кахання збан
На руцэ разбіты.

* * * * *

Як стрэлачнік, трымаю вахту,
Даю сігнал спыніцца.
А паравоз шапнуў: “Ту-ту”, -
І без супынку мчыцца.

* * * * *

Паміж летам і зімой
Сумна сэрцу жаркаму.
Тчэ прырода свой сувой
Думкамі нязгаснымі.

* * * * *

Мая душа палёту просіць,
Яго – трымаецца зямлі.
Мяне паэзія узносіць,
А ён ўзрастае на раллі.

* * * * *

Заснежылісь скроні зімова,
І ўсё ж зразумець не магу:
Наладзіў хто свет так сурова,
Скажыце, навошта, чаму?

* * * * *

Зняверылася сэрца.
Заснежыліся скроні.
Заціхла ў паняверцы
Слязінкай на далоні.

* * * * *

А ружа, што дарыў ты мне,
Усё-такі завяла.

## НАТХНЕННЕ

Зімова-чыстае,
Вясёла-снежнае,
Зялёна-весняе
З птушынай песняю.

Музычна-светлае,
Радужна-летняе,
Квяціста-яркае –
Прыход загадкавы.

Мройна-міражнае,
Далёка-блізкае,
Недасягальнае,
Марозна-слізкае.

Салодка-горкае,
Кісла-салёнае,
Чорна-самотнае,
Як доля ўдовіна.

Воблачна-шэрае,
Сонечна-хмарнае,
Радасна-ўзнёслае,
Часам падманнае.

Асенне-рдзянае,
Гаркава-скрушнае,
Доўгачаканае,
Бывае штучнае.

Маланка бліснула –
Натхненне пырснула,
Гарэла полымем,
Патухла з норавам.

* * * * *

У небе сваё жыццё,
У небе свае законы.
Падобна неба на мора,
Падобна неба на горы.

Бягуць аблачынкі гуртам,
Нібы авечкі з пашы.
Плывуць аблокі асобкам,
Што ім праблемы нашы.

Мастак нябёсаў адметны,
Ніколі не паўтараецца:
Малюе пейзажы зімовыя,
Абстракцыяй захапляецца.

Змяняюцца ў небе малюнкі,
Змяняецца мой настрой.
Плывуць разам з хмарамі думкі
Безназоўныя – чарадой.

* * * * *

Дотык вады да цела –
Адзіная радасць жыцця.
Як хутка ўсё праляцела!
Плыву па рацэ забыцця...
Адзіная радасць жыцця –
Дотык вады да цела.

* * * * *

Хвалюе кожнага, паверце,
Закон бясконцасці жыцця.
І тут не будзе адкрыцця:
Закон бясконцасці жыцця –
У нараджэнні,
а таксама ў смерці.

* * * * *

Іду ў бясконцасць, у туман,
А снежань вабіць вока!
І раптам возера - падман
Бясконцасці і зроку.

* * * * *

Хачу, каб вобразы бруіліся,
І думкі жытам каласіліся,
Барвовым лістападам
Кружыліся і падалі.

## ТРЫЯЛЕТ

Імчыць мяне ў нязведанае скоры,
У кожнага цягнік і станцыя свае,
Вядуцца тут даверлівыя споры,
Імчыць мяне ў нязведанае скоры,
Але патрэбнага прыпынку нестае.
І ўсё ж надзеяй кожны з нас жыве,
Імчыць мяне ў нязведанае скоры,
У кожнага цягнік і станцыя свае.

* * * * *

У тлуме дня жадаю адзіноты,
У адзіноце трызню тлумам дня,
У цішыні я чую сэрца ноты,
У шуме глохне музыка мая.

Жыццё бяжыць галопам і алюрам,
І лёсам правіць доля непазбежнасці,
І стрэлы, што адпушчаны Амурам,
Не мне. Святкую дзень свой
незалежнасці.

* * * * *

Не чуем мы крыку травы пры дарозе,
Не бачым слязінак ў вачах у дзяцей,
Не часта стаім на бацькоўскім парозе,
Пазбавіліся мар, летуценняў, надзей.

Дык хто ж мы такія, што гэтах бязбожна
На ўсё сузіраем без болю ў душы?
Айцец наш нябесны, ці гэтак жа можна?
Як стаць нам на праведны шлях, падкажы.

## ТРЫЯЛЕТ

*Мне доўгае растанне з Вамі*
М.Багдановіч

Мне выпадковае знаёмства з Вамі
Паслаў мой бессардэчны лёс.
Чаму ж студзёны час прынёс
Мне выпадковае знаёмства з Вамі?
Я не стрымалася ад слёз,
Калі паразважала над радкамі.
Мне выпадковае знаёмства з Вамі
Чаму ж студзёны час прынёс?

*****

Промні крыштальным дажджом па вадзе -
Гладзь пераліўна срабрыцца.
З сонцам Арфей сваю песню вядзе,
Я - з азярцом, што іскрыцца.

*****

Як колас да коласа хінецца,
Так і блізкія па духу сэрцы.

* * * * *

Пеніцца вада пад вадаспадам:
Булькае, кіпіць, жыве…
Вечар чырванню праходзіць садам,
Промнямі казыча па траве.

Вобразы няведамай рукі -
Ледзь з’явіўшыся – знікаюць,
І на галактычным палатне ракі
Новыя абстракцыі ўзнімаюць.

* * * * *

Вецер ласкава мяне абдымае,
Слёзна цалуе, туліць і песціць.
Мілага сэрцу сягоння не стала,
Страту ён хоча паменшыць.

* * * * *

Шэра, шэра, шэра.
Чорна, чорна, чорна.
Я іду дадому,
Дзе мяне ніхто не сустрэне.

* * * * *

З даўніх часоў людзі шчасця шукалі,
Ды не знайшоўшы яго, паміралі.

## ТАНКА

Сонца белае
Размытае павісла
Над голымі дрэвамі.
Позняя восень.
Імга. Няўтульна.

* * * * *

Шчырае слоўка
Пачула, адно слоўка –
Добра на душы,
Светла сталася.
Вось так заўсёды б.

* * * * *

Клічнікі, коскі,
Шматкроп’і, пытальнікі.
У дзверы кропка
Пастукалася.
Старасць прыйшла ўжо.

## ХОКУ

Вецер насустрач.
Ласкай ахутаў мяне.
Шкада, што не ты.

* * * * *

Юнацтва сонцу
Усміхаецца шчыра.
Старасць – унукам.

* * * * *

Настаў час такі,
Што магу ўсіх адарыць.
Шчаслівая я.

* * * * *

Восень шчыльна зачыніла дзверы,
І вясна мая даўно ўжо адцвіла.
Валасы заснежыла мяцеліца,
Але ж квеценню вясны той
сэрца цепліцца,
Дзе з табой шчасліваю была.

## БАЦЬКАВА МУДРАСЦЬ

Знайшоўшы, не радуйся.
Страціўшы, не сумуй.
Твая страта – чыясьці знаходка.

## МАЛІТВА*

Божа літасцівы!
Прашу цябе,
Дапамажы Нілу Сымонавічу,
Тваёй ласкаю блаславёнага
На справы праведныя.
Дай яму сілу сказаць тваё слова.
Дыхні на яго лагодным ветрыкам,
Каб і яму лягчэй дыхалася.
Сагрэй сонечнымі праменьчыкамі
Яго баляшчыя рукі,
Каб яму яшчэ пісалася.
Прыкладзі да ног яго
Зёлкі лясоў тваіх,
Каб яго ножанькі хадзілі.
Напоўні сэрца яго радасцю
І дай нам магчымасць
Чуць яго і бачыць
Яшчэ многа гадоў.
У імя Айца і Сына
І Святага Духа,
Амін!

* Гэтая малітва пісалася ў 2008 годзе, калі Ніл Сымонавіч Гілевіч цяжка хварэў.

## БОЖАЯ ЛАСКА

З божае ласкі жывем мы на свеце,
З божае ласкі галубім каханых,
З божае ласкі з'яўляюцца дзеці,
З божае ласкі працуем аддана.

З божае ласкі нам пішуцца вершы,
З божае ласкі – узлёты й падзенні,
З божае ласкі, калі ты не першы,
З божае ласкі – іспыты й надзеі.

*****

Добра там, дзе нас няма?
Там смачней, там лепш жывецца?
… Без праблем і без труда
Манна з неба ў казках льецца.

*****

Жанчыне патрэбен муж,
Мужчыне патрэбна жонка.
Сямейны саюз будзе дуж,
Калі не сварыцца з-за йголкі.

*****

Не вучаць чужыя гузы на ілбе,
Мы любім свае набіваць.
І, стаўшы на граблі знянацку, сябе
Клянём мы й чыюсьці шчэ маць.

## КАРОВА
*Байка*

Ўсяму свой час,
Свае парадкі і свая выснова.
На пенсію пайшла карова.

Карова маладой была:
Не бегала яна – лятала,
Дзе толькі брала сілы,
Каб паспяваць і там і тут?
Напэўна, памагалі крылы.
І вось праўляе юбілей карова:
“Каб ты была здарова, -
ёй кожны гаварыў, -
ты малайчына, прыгожая і маеш крылы.
Табе так лёгка ўсё даецца,
Нам да цябе далёка”.
“Не трэба траціцца на сыр, смятану,
Навошта працаваць?
І я не стану, як толькі дажыву, -
малола языком суседка, -
ей Богу, будзеш сведкай”.
Карова галавойківала і маўчала.

Прайшоў гадок, другі,
Карова не пазбавілась тугі.
Карова болей не лятала –
Падняцца ў неба не давалі ланцугі.

**АЎСЯННІКАВАЙ Г.А.,**
*якая любіла гаварыць праўду.*

Бабуля на Радзіму захацела,
Дзе ўсё жыццё яе прайшло.
З дачкою разам паляцела…
І вось - знаёмае сяло.

Насустрач ім ідзе кабета.
Гасцей адразу пазнае.
А тая: “Ты, напэўна, Света?
Скажы, старэй ты за мяне?”

Збянтэжана Святлана запытала:
-Навошта Вам мае гады?
-Якая ж ты страшная стала!
-Ах, цётачка, то ад бяды.

## ПІСЬМО

Мой сябра, прывітанне!
Здароўя добрага табе
й жаданняў.
Мяне ты падштурхнуў
да разважанняў:
Чаму, я думаю, адны
зальюцца салаўямі,
Другія без маны
Раскажуць ўсё рукамі?
Жадаем мы любіць
вушамі й целам,
Шкада, што у жыцці
Такога я не стрэла.

Тут сказанае - не паданні,
Паэт - не Казанова,
Свае фантазіі й жаданні
Ён субліміруе у слова.
Паразважай і ты
на гэту тэму
І напішы санет
альбо паэму.

## РАЗВАЖАННІ СУБЛІМАТАРА

Магу я гэтак, магу я так,
На ўсе рукі  я мастак!

Але не хочацца. Лепш пагляджу
І каля краю тут пасяджу.

Паназіраю я за табой:
Наколькі хопіць цябе са мной.

Мае пачуцці не йдуць далей –
Мне сублімацыя усё ж мілей.

Люблю на словах я разважаць,
Люблю пачуцці ілюстраваць.

Але сур’ёзу тут ні на грам,
На словах ўсё я табе аддам.

Словы да сэрца ты не прымай,
Мяне узрушыў квяцісты май.

* * * * *

З выкладчыкам лацінскай мовы вітаецца студэнт. Выкладчык пытаецца:

- Вы мне залік здалі?
- Але, - адказвае студэнт.
- Тады чаму вы вітаецеся ?

* * * * *

Расчараваны ў вучобе хлопчык 5 класа нічога не рабіў на ўроку матэматыкі. На заўвагу настаўніцы толькі ўсміхнуўся. Тады яна дала ўказку адной дзяўчынцы і сказала:

- Стукні яго, я дазваляю.

Вучаніца добрасумленна выканала загад настаўніцы. Усім у класе было весела, акрамя аднаго хлопчыка.

* * * * *

- Вы сёння павінны быць дома, - сказала мне суседка.
- Гэта чаму?
- Да мяне прыйдуць майстры. Яны будуць замазваць дзіркі на балконе, каб ластаўкі не вілі гнёздаў.
- А я пры чым?
- Гм, яны будуць ісці праз вашу кватэру.
- А чаму праз маю?
- Якая вы не здагадлівая! У мяне ў кватэры не прыбрана.
- А ў мяне на балконе.
- Дык вы прыбярыце.

* * * *

- Не люблю беларускую мову, не люблю!
- А вы на каком языке говорите?
- Як на якім, на рускім!

* * * * *

Бацька, маці і я ехалі на возе з дзялянкі сенакосу, якую бацькі атрымалі на працадні. Раптам мы ўбачылі, што гарыць скірда калгаснага сена (там было яшчэ з дзесятак такіх жа скірд). Бацька загадаў, каб маці са мной ехала ў вёску за дапамогай, а сам кінуўся тушыць.

Бацьку аштрафавалі, прызналі вінаватым: “Навошта было б Пятру Цімафеевічу ратаваць сена, калі б ён сам яго не падпаліў; ён жа курыць – усе гэта ведаюць.”

* * * * *

- Дачушка, наша люстэрка зусім няправільнае.
- Чаму, мама?
- Няўжо ў мяне столькі маршчын!

*****

Настаўніца пачатковых класаў пасля другой змены зачыніла ў класе на ключ вучня. Хлопчык спалохаўся, але ўсё ж выканаў абавязак дзяжурнага: паставіў усе стулы на парты.

Калі бацькі спыталіся ў настаўніцы, як такое магло здарыцца, яна, ніколькі не бянтэжачыся, адказала:

- Я яго не заўважыла. І наогул, ён не павінен быў дзяжурыць.

*****

Мне было гадоў пяць, калі ў нашу вёску прыехаў скрыпач з канцэртам. Скрыпку я бачыла ўпершыню, артыста таксама. Я з захапленнем слухала, як ажывалі галасы звяроў і птушак, як перадаваліся чалавечыя пачуцці гора і радасці. Мае дзіцячыя ўражанні ад сустрэчы з музыкай і сёння жывуць у маім сэрцы, якое, як і тады, працягвае смяяцца, плакаць і спяваць.

## ЗМЕСТ



## БЫЛА СУСТРЭЧА



## КРУГАВАРОТ

## РУЖА НА ПАМЯЦЬ



## БОЖАЯ ЛАСКА

## ДОБРА ТАМ, ДЗЕ НАС НЯМА



## ЛОГІКА. Мініяцюры

Літаратурна-мастацкае выданне

**Тамара Аўсяннікава**

# НОТЫ СЭРЦА

ВЕРШЫ
МІНІЯЦЮРЫ

Камп`ютэрны набор *Тамара Аўсяннікава*
Комп`ютэрная вёрстка *Тацяна Снігірова*
*Dawid Więcek*
Кансультант *Людміла Папова*

На вокладцы карціна *Марыны Ісаёнак* *«Прадчуванне»*

*Падпісана да друку 09.03.2009*
*Папера для капір. апаратаў і лазерных прынтараў.*
*Фармат А-5. Надрукавана на капіравальным апараце «XEROX 5915».*
*Тыраж 100 экз.*
*212030. г.Магілёў, вул. Першамайская, 10.*
*УК "Магілёўскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці і культурна-асветнай работы"*
*Рэдакцыйна-выдавецкі аддзел, тэл. 25-35-23*

